# ПАГОНЯ

Чацвер
10 лютага 2000 г.
№ 6 (453)
Кошт 70 рублёў

## Па кулі на брата

**Адзін чалавек загінуў і адзін у крытычным стане дастаўлены ў бальніцу ў выніку стралянiны ў панядзелак каля Палаца культуры хімікаў.**

Браты Д.і Г.Аляшкевічы былі знойдзены з агнястрэльнымі раненнямі на прыступках Палаца культуры хімікаў. Як высветлілася, яны адпачывалі ў начным клубе «Флінт». У 5.30 раніцы, перад закрыццём клубу, браты Аляшкевічы накіраваліся да выхаду. Тут у іх бок быў адкрыты агонь, у выніку якога Д.Аляшкевіч, 1968 года нараджэння, атрымаў кулю ў галаву і памёр, а Г.Аляшкевіч, 1970 года нараджэння, быў паранены ў шыю. Куля трапіла паміж шыйных пазванкоў і, па меркаваннях дактароў, аперацыйнае ўмяшальніцтва небяспечнае для жыцця ахвяры. Аднак незалежна ад магчымых вынікаў аперацыі вельмі вялікая верагоднасць таго, што паранены не зможа ўзнавіць нармальны лад жыцця.

Хоць а палове шостай раніцы ў лютым яшчэ цёмна, сведкі сцвярджаюць, што стралялі з BMW, якая потым знікла ў невядомым накірунку.

Міліцыя пакуль што даводзіць, што матывы і выканаўцы злачынства невядомыя. Адной з рабочых версіяў можа быць «разборка паміж гаспадарамі». Паводле неафіцыйных звестак, браты Аляшкевічы на пачатку 90-х гадоў прамышлялі рэкетам, пазней перайшлі на «мірны бізнес», напрыклад, продаж і вытворчасць прадуктаў харчавання, забаўляльная індустрыя. Разам з Аляшкевічамі ў тую раніцу была дзяўчына. Ад спалоху з ёю здарыўся шок.

**Алена Сіневіч**

## «Азот» працуе за «дзякуй»

**Гарадзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» выканае ўрадавае заданне па пастаўцы азотных угнаенняў сельскагаспадарчаму сектару эканомікі, нягледзячы на неплацяжы.**

У 1999 годзе ГВА «Азот» паставіла 257,8 тысячы тон азотных угнаенняў, што на 24 працэнты больш, чым у 1998 годзе. Згодна з пастановай Савета Міністраў «Аб першачарговых захадах па падрыхтоўцы сельгаспрадпрыемстваў да веснавых палявых работ і стварэнні трывалай кармавой базы ў 2000 годзе», аб'яднанню трэба паставіць сельскай гаспадарцы 270 тысяч тон азотных угнаенняў. Летась урад знізіў для аб'яднання цану на прыродны газ — асноўную сыравіну для вытворчасці ўгнаенняў — з 69 да 49 даляраў ЗША за тысячу кубаметраў. Гэта, згодна з афіцыйнымі крыніцамі, спыніла рэзкі рост запазычанасці за энерганосьбіты. Кіраўніцтва «Белнафтахіма» лічыць, што зніжэнне цаны на прыродны газ дазволіла ГВА «Азот» выйсці на рэнтабельную цану азотных угнаенняў.

У 1999 годзе аб'яднанне панесла страты (з улікам дэнамінацыі) ад рэалізацыі сваёй прадукцыі сельскай гаспадарцы ў памеры 2,1 мільярда рублёў.

**Яўген Грубіч**

## А малака дай !!!

Як зазначыў намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Гвоздзь падчас выступлення перад сувязістамі, у калгасах няма чым карміць скаціну, бракуе нават саломы. У гэты час раён працягвае аддаваць кармы ў Віцебскую вобласць. Калі з восені вагонамі вывозілі сена, то зараз вывозяць салому. Зараз да справы далучыліся яшчэ машыны. Нягледзячы на ўсё гэта, раённыя ўлады паказваюць бадзёры аптымізм ды запланавалі рост пакасчыкаў прывагі жывёлы і надояў малака ў бягучым годзе.

**М.Карпейчык**




11, 12 лютага - без ападкаў, месцамі - снег, галалёдзіца, вецер заходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-5, удзень -4...+1.

## Хутка вясна і хутка каханне!

**Набліжаецца дзень Святога Валянціна - свята імпартнае, але яно даспадобы і нам. Каля дзесяці гадоў таму мы ўпершыню пачулі, што ў свеце, выяўляецца, людзі святкуюць не толькі Дзень чыгуначніка, механізатара і ўзяцця Бастыліі, але і дзень Кахання.**



Свята вельмі і вельмі цікавае. У гэты дзень, 14 лютага, можна дазволіць сабе мноства самых неверагодных любоўных глупстваў. Напрыклад, прызнацца ў каханні шэфовай або правесці рамантычны вечар у загарадным рэстаранчыку з жаніхом сяброўкі. Дзіўакі-французы на гэты дзень даюць сваім нарачоным індульгенцыю, як бы позна і ў якім бы непрытомным стане тыя не з'явіліся дадому пасля пікантных прыгодаў. У іх прынята на Валянцінаў дзень абсыпаць каханых ружовымі надзіманымі шарамі, дарыць сэрцы ў выглядзе вялікіх і малых цацак, тартоў, цукерак, паштовак.

А як у нас? Сёлета, да прыкладу, гандаль нават і не ўспомніў пра Валянцінаву атрыбутыку. Як кажуць - не да жыру, быць бы жыву. У крамах няма ніякіх сувеніраў да дня Кахання: ні каробак цукерак у выглядзе вялікага чырвонага сэрца, ні якіх іншых цацак.

Хаця, можа такому ігнараванню валянцінак ёсць іншае тлумачэнне. Хутчэй за ўсё, тутэйшаму народу даспадобы ніякае каханне. Гэта калі сакраментальнае «Я цябе кахаю» гавораць толькі раз у жыцці - перад алтаром. А пасля ўжо ніякіх сантыментаў і шчыпцамі не выцягнеш. Праўда, такое глыбокае пачуццё часам хаваецца так далёка, што з'яўляецца нагода засумнявацца: а ці было яно?

Напэўна, для таго і прыдуманы сярод шэрых хлюпотных лютаўскіх дзён дзень Святога Валянціна - каб хоць зрэдку ўспамінаць сваіх каханых і каб сярод зімы паграцца ў добрых, пяшчотных, блізкіх пачуццях.

Галоўнае - своечасова ўзгадаць, што хутка вясна і хутка каханне - каб не было непапраўна позна.

**Алена Сіневіч**



## «Ляпісы» едуць у Гродна з сюрпрызам

**У суботу, 12 лютага, у Доме афіцэраў адбудзецца ўжо другі канцэрт гурта «Ляпис Трубецкой» у нашым горадзе. Першае наведванне Гродна было амаль год таму, напачатку сакавіка.**

Гэтымі днямі гурт закончыў запіс новага альбома, які пакуль што без назвы. Усе песні, якія ў яго ўвайшлі - новыя і вясёлыя.

А прадзюсерскі цэнтр «КласКлубДжазКрафт» рыхтуе для аматараў «Ляпісаў» сюрпрыз: той, хто набудзе 250-ы, 500-ы білеты і першы пакупнік 10-ці білетаў запар атрымае падарунак. Які - пакуль таямніца.

**Алена Сіневіч**

## У Гарадзенскім драмтэатры - новы галоўны рэжысёр

**У Гарадзенскім абласным драматычным тэатры - змена кіраўніцтва. Новым дырэктарам прызначаны Сяргей Палешчанкаў.**

У тэатры амаль два гады не было галоўнага рэжысёра. З другога лютага гэтую пасаду заняў Рыгор Маркавец. Апошнім месцам яго работы быў Магілёўскі тэатр імя Дуніна-Марцінкевіча. На сустрэчы з журналістамі Рыгор Маркавец падзяліўся сваімі рабочымі планамі: «...галоўны рэжысёр пакуль што будзе наладжваць рэжым работы. Ставіць буду потым».

Першым новаўвядзеннем галоўнага рэжысёра стала ўзнаўленне работы мастацкага савета ў тэатры, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі адміністрацыі тэатра і аддзелу культуры выканкама. Як мяркуецца, мастсавет павінен будзе сачыць за «якасцю тавару» - гэта значыць, зацвярджаць канкурэнтаздольныя спектаклі, здольныя сабраць касу. У рэпертуарных планах тэатра на першую палову 2000 года - тры прэм'еры. У сакавіку выйдзе «Татуіраваная ружа» ў пастаноўцы Генадзя Мушперта, пазней - пастаноўкі п'есы Гібсана «Анучная лялька» («Тряпичная кукла») і «Апошняя спроба» Аляксандра Задорнава.

На першым пасяджэнні мастацкага савета было вырашана спісаць з рэпертуара сем спектакляў, сярод якіх і «хіт» многіх сезонаў - «Нора» Ібсена. Наогул, плануецца штогод ставіць прыкладна столькі ж - 6-7 новых спектакляў, сярод якіх будзе па дзве камедыі, дзве пастаноўкі любых іншых жанраў (меладрама, трагедыя ды інш.), адзін эксперыментальны спектакль і карнавальная навагодняя казка.

Першымі пастаноўкамі рэжысёра Марчука будзе два вадэвіля паводле Ф.Салагуба і М.Горкага.

**Алеся Макоўская**

## Цэнтр Гродна ледзь не ператварыўся ў руіны

**7 лютага ў цэнтры Гродна ледзь не здарыўся страшэнны выбух. Каля 12 гадзін 30 хвілін спецыялізаваная машына, якая перавозіла балоны з прапанам для насельніцтва, праваліліся ў яму каля каналізацыйнага люку. Небяспеку хутка ліквідавалі. Пацярпелых не было. Але справа магла скончыцца трагічна.**

Агінаючы кут дома, што знадворку магазіна «Башмачок», шафёр не заўважыў дзірку ў асфальце. Пярэднія колы праехалі нармальна, а вось больш цяжкі «зад» машыны асфальт не вытрымаў. Задняе кола напалову правалілася ў дзірку.

Паводле словаў відавочцы здарэння Паўла Канопкіна, перапалоханы шафёр і грузчык вылезлі з машыны ды кінуліся ўцякаць у розныя бакі. Прахожыя таксама доўга каля перакуленай машыны не затрымаліся і пабеглі далей ад небяспекі ўслед за «газавікамі». Праўда, апошнія не зусім разгубіліся. Яны адразу патэлефанавалі ў Гарадзенскі міжрайгаз і выклікалі на дапамогу машыну. Праз хвілін 20 ні машыны з газавымі балонамі, ні ЗІЛу, што яе выцягваў, на месцы здарэння ўжо не было.

Галоўны інжынер Міжраённага ўпраўлення Гарадзенскага міжрайгаза Яўген Паплаўскі сцвярджае, што небяспекі выбуху не было. Пад машынай проста «праваліўся грунт». Удару не адбылося. Такія «звычайныя» здарэнні ва Упраўленні міжрайгаза нават не фіксуюцца.



Калі б гэтае начынне, крый Божа, выбухнула...
Фота ГА «Ратуша»

А калі б удар усё ж такі адбыўся? Спецыялісты з Міністэрства па надзвычайных сітуацыях лічаць, што ў такой сітуацыі да біды заставалася паўкроку. У працэсе шаргавання металу аб метал магла запаліцца іскра. Вынікі тады быў бы непазбежным. У мінулым годзе ў Гарадзенскай вобласці ў двухпавярховым васьміквартэрным доме выбухнуў адзін балон з прапанам. У выніку ў доме папаліся бетонныя пліты. Уявіце, якой моцы быў бы выбух машыны з газавымі балонамі.

Агромністая дзірка і дагэтуль зеўрае ў асфальце. Яна ўжо даўно ўтварылася каля каналізацыйнага люку, праўда, была трохі меншая. Зараз практычныя бабулькі, што нават не ведаюць, якой трагедыі цудам пазбеглі ў панядзелак, зрабілі з ямы сметніцу.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Акцыя любові 14 лютага дазволеная!

**Менскі гарадзкі выканаўчы камітэт дазволіў прадстаўнікам Маладога Фронту Алесю Стральцову і Паўлу Севярынцу правесьці ў сталіцы сьвяткаваньне 14-га лютага - акцыю любові. Як і прадугледжвалі заяўнікі, збор удзельнікаў шэсьця адбудзецца з 16.30 да 17.00 на плошчы Якуба Коласа, пасьля чаго моладзь вуліцамі Чырвоная, Камуністычная, Чычэрына накіруецца да Опэрнага тэатру, дзе заплянаваны кароткі, але відовішчны мітынг.**

Традыцыйнае маладафронтаўскае віншаваньне заходніх краінаў, у адрозьненьне ад акцыяў 1997-1999 гадоў, пройдзе зранку, калі моладзевая дэлегацыя наведае амбасады Францыі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Італіі, Украіны, Эстоніі, Латвіі, Летувы, Чэхіі, Польшчы, ЗША ды іншых дзяржаваў. На самім шэсьці маладафронтаўцы панясуць сьцягі гэтых дзяржаваў, а таксама палотнішча Эўразьвязу як знак яднаньня з Эўропай.

Галоўны лёзунг і дэвіз акцыі любові - I LOVE YOU! Мяркуецца, што кожны ўдзельнік шэсьця атрымае «валяньцінку» - бел-чырвона-белае сэрца, якое можна будзе прышпіліць на грудзях, а таксама званочак - сымбаль акцыі.

На пачатку новае эры званочкі былі знакам першых хрысьціянаў - і пазьней ператварыліся ў званы на кляштарах і саборах. «Апошні званок» для страху, гвалту й нянавісці ва ўладзе і грамадзтве - гэта першы званочак веры, надзеі, любові новага пакаленьня моладзі, Маладога Фронту.

У большасьць беларускіх моладзевых арганізацыяў накіраваны «Зварот любові», які запрашае моладзь на акцыю 14 лютага. Апроч гэтага, зварот перададзены ў Савет міністраў, міністэрствы адукацыі, культуры, сувязі, аховы здароўя, замежных і ўнутраных справаў; у прэсу, на радыё й тэлевізію, у адміністрацыі ВНУ, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі, а таксама ў храмы й беларускія хрысьціянскія супольнасьці.

«Любыя менчукі! Мы, моладзь сталіцы, віншуем вас усіх зь Днём Сьвятога Валяньціна, днём шчасьця, маладосьці й любові. Мы любім вас, цэнім вашую бацькоўскую любоў, сяброўскую адданасьць і шчырае каханьне, - гаворыцца ў звароце. - У 2000 год ад нараджэньня Хрыста для нас усіх, усёй Беларусі, усяго сьвету надыходзіць час любові.»

Малады Фронт пляную правесьці акцыю любові больш як у 20-ці гарадох Беларусі: Горадні, Берасьці, Вітабску, Магілёве, Гомлі, Маладэчне, Наваполацку, Баранавічах, Ваўкавыску, Барысаве, Бабруйску ды іншых. Там адбудуцца вечарыны, дыскатэкі, віктарыны й адмысловыя пікеты «Палаючае сэрца». У Кіеве, Варшаве, Будапэшце да акцыі любові рыхтуюцца замежныя прадстаўніцтвы МФ.

Папярэдне, 4 лютага ў памяшканьні Ўправы БНФ ужо прайшла хрысьціянская канфэрэнцыя «Пра любоў», падчас якой перад моладзьдзю выступілі сьвятары асноўных беларускіх канфэсіяў. Тэмай абмеркаваньня, канешне ж, была любоў - чалавечая і Божая.

Малады Фронт запрашае на акцыю любові ўсіх менчукоў і гасьцей сталіцы - 14 лютага, збор з 16.30 да 17.00 на плошчы Якуба Коласа.

**Ул.інф.**

# Рывалье прыехаў і паехаў. А мы застаемся...

**Два тыдні таму ПАГОНЯ паведаміла аб прыездзе ў Гродна 25 студзеня саветніка групы назіральнікаў АБСЕ ў Беларусі пана Мішэля Рывалье. Мэтай візіту высокага госьця была арганізацыя ў сярэдзіне лютага семінару, удзел у якім павінны прыняць мясцовая «вертыкаль» і тутэйшая апазіцыя. Сёньня пра гэтую падзею больш падрабязна.**

Падчас размовы з мясцовымі апазіцыянерамі Мішэль Рывалье запрасіў прысутных да шчырай размовы як па пытаннях парадку дня, так і «пра ўсё, што хвалюе». Закранаючы тэму маючых адбыцца выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган Беларусі, рэдактар газеты ПАГОНЯ Мікалай Маркевіч рэзонна заўважыў, што прыняты днямі так званай Палатай Прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода выбарчы кодэкс па-ранейшаму змяшчае дыскрымінацыйныя меры ў дачыненні да апазіцыйных сілаў. Іншыя з заўваг групы назіральнікаў АБСЕ ў Беларусі былі прыняты, аднак усё роўна дэмакратычным вылучэнцам могуць «перакрыць кісларод» у любы момант, на любым этапе выбарчай кампаніі. Увогуле, складваецца ўражанне, што еўрапейскія назіральнікі ў нашай краіне імкнуцца чаго б гэта ні каштавала ўгаварыць апазіцыю паўдзельнічаць у выбарах.

Мішэль Рывалье ўважліва занатоўвае пачутае. Адзначыў, што мэта місіі - садзейнічаць паразуменню і дыялогу, пошуку кампрамісу паміж канфліктуючымі бакамі. У той жа час АБСЕ прынцыпова абараняе дэмакратычныя прынцыпы. Увесну мінулага года ў Беларусі праводзіліся выбары ў мясцовыя Саветы. Абапіраючыся на даклад менскай групы АБСЕ, Еўрапейскі Саюз не прыслаў сваіх назіральнікаў. Гэта значыць, што вынікі выбараў не прызнаны і цяперашнія беларускія органы самакіравання не з'яўляюцца легітымнымі.

Працягваючы тэму выбараў, старшыня гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» Сяргей Мальчык нагадаў вядомы тэзіс: нельга гаварыць пра вартасны ўдзел у выбарах, калі няма магчымасці данесці свой пункт гледжання да шырокіх колаў грамадскасці. Напрыклад, кіраўніцтва абласнога тэлерадыёаб'яднання, парушаючы заканадаўства, ўпарта ігнаруе пісьмовыя звароты прадстаўнікоў апазіцыйных сіл рэгіёна аб выступленні ў тэле-і радыёэфіры. Нельга спадзявацца і на дзяржаўны друк. Загадзя ствараюцца няроўныя ўмовы, чым парушаецца Канстытуцыя. У руках «вертыкалі» ўсе рычагі выбарчага механізму - ад стварэння акруговых камісій да падліку галасоў і апрабаванага на практыцы датэрміновага галасавання. Таму нават вылучэнне назіральнікаў у пэўным сэнсе азначае ўдзел у выбарах. Гэты факт абавязкова выкарыстаюць дзяржаўныя СМІ, каб пахваліцца перад еўрапейскай супольнасцю, маўляў, і апазіцыя прымае правілы гульні, навязаныя Аляксандрам Лукашэнкам.

Старшыня гарадской арганізацыі Таварыства беларускай вышэйшай школы, доктар медыцынскіх навук, прафесар Алесь Астроўскі выказаў меркаванне, што сёння яшчэ рана гаварыць пра ўдзел ці няўдзел апазіцыі ў выбарах. Хаця спее перакананасць у апошнім. Выступоўца нагадаў, што абавязкова трэба ўлічваць вынікі інтэграцыйнай валтузні вакол стварэння саюзнай дзяржавы Беларусь-Расея. Магчыма, давядзецца выбіраць дэпутатаў адзінага парламента. А гэта ўжо зусім іншая размова (у Маскве 27 студзеня аб'яўлена аб правядзенні выбараў у адзіны парламент восенню гэтага года - А.Л.).

Іншыя выказванні прысутных выклікалі ў пана Рывалье пэўнае незадавальненне. Аднак выхаваны еўрапеец старанна прыхоўваў свае пачуцці. Як дасведчаны дыпламат, ён абыходзіў вострыя вуглы. Урэшце, задача АБСЕ заключаецца ў падтрымцы ўлады і грамадзянскай супольнасці Беларусі ў пабудове дэмакратычных інстытутаў па еўрапейскіх стандартах, а таксама ў назіранні за выкананнем нашай краінай узятых абавязацельстваў перад Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе...

Што да запланаванага семінару, дык толку ад яго правядзення, на маю думку, будзе мала: АБСЕ сваім аўтарытэтам збярэ разам гарадзенскую «вертыкаль» і апазіцыю. Яны абмяняюцца думкамі адносна мясцовага самакіравання, сацыяльна-палітычнага становішча рэгіёну, вяршэнства Закона. Прычым, з супрацьлеглых пазіцый. Апазіцыянеры на фактах перакануюць у адсутнасці самакіравання ў яго еўрапейскім разуменні, дрэнным стане эканомікі, палітычным уціску, ігнараванні Законаў. Прадстаўнікі аблвыканкама з лічбамі і фактамі паспрабуюць давесці прысутным адваротнае. Кожны застанецца на сваіх пазіцыях. Выступленні замежных экспертаў будуць прыняты да ведама, і не больш.

І яшчэ. Навошта сустракацца з тымі, хто гэтага не жадае, ідзе на кантакт з-пад палкі, бо так загадала Міністэрства замежных справаў Беларусі, саступаючы патрабаванню АБСЕ. Хіба апошнім часам была з боку гар-і аблвыканкама прапанова сустрэцца, абмяняцца думкамі з кіраўніцтвам апазіцыйных партый і арганізацый Гарадзеншчыны? Наадварот, у 1999 годзе ўзаемаадносіны пагоршыліся. Стала практыкай адмова ў просьбах на дазвол правесці пікет ці шэсце, не кажучы пра мітынгі. Як ніколі шмат, летась было затрымана, асуджана і аштрафавана гарадзенцаў за палітычную дзейнасць. За ўсім гэтым стаяць вядомыя асобы, з якімі саветнік назіральнай групы АБСЕ пан Мішэль Рывалье запрашае іх апанентаў наладзіць слоўную дуэль. Трэба сябе не паважаць, каб пайсці на гэта. Спасылка, што такія сустрэчы ўжо адбыліся ва ўсіх абласных цэнтрах - яшчэ не доказ, каб рабіць неабачлівы захад.

Урэшце, гэта маё ўласнае меркаванне. Магчыма, нехта мае іншае?

**Антон Лабовіч**

# Будзе Ўнівэрсытэт - будзе й школа

*Божа, што калісь народы*
*На асобкі падзяліў*
*І хацеў, каб народ кожны*
*Мовай роднай гаварыў.*

Эпіграфам для майго разважаньня паслужыла слынная беларуская песьня, што выконваецца хорам «Бацькаўшчына». Але, адвечная спроба беларускай інтэлігенцыі - каб народ «загаварыў». Яна мела месца колькі гадоў таму, у час «нацыянальнай адлігі» 90-х. Гэта стала ўжо гісторыяй: беларускія дзяржаўныя школы, садкі, кволыя спробы беларусізаваць вышэйшую школу. І вось - дыктатура. Як сутоньне ў пахмурны дзень для многіх тысячаў беларусаў. Няпэўнасьць для беларускіх сем'яў; як навучыць сваіх дзяцей незразумелай ім мове суседняе краіны. Але пасьля пахмурных заўсёды мусяць надысьці сьветлыя надзеяносныя дні. Так павінны самі беларусы, якіх, паводле роднасьці мовы ў Беларусі ажно 39 працэнтаў ад агульнай колькасьці насельніцтва, вырашыць, як і што павінны вывучаць нашы дзеці ў школах, каб стаць сапраўднымі патрыётамі нашага Краю.

Увесь працэс станаўленьня беларускай асьветы, якая б пабацькоўску чульліва й строга ставілася да сваіх гадаванцаў, павінен мець нацыянальны й хрысьціянскі прыярытэты. Гэта ўнівэрсальная мадэль, якая спрацоўвала й спрацоўвае ў грамадзтвах, якія прызнаюць сябе прадстаўнікамі цывілізацыі эўрапэйскай з усімі наступствамі, якія з гэтага вынікаюць. Цяперашняя сытуацыя ў галіне выхаваньня ў Беларусі скіравана на вышturхоўваньне ўсяго беларускага, на прафанацыю беларускай культуры. Школа-жабрачка на новым этапе разьвіцьця Беларусі аказалася паслугачкай не свайго народу, але яе ўзурпатара. Прычыны гэтаму: скрайняе фінансавае становішча настаўніка. Маладыя таленавітыя настаўнікі мусяць шукаць сабе іншых заробкаў. Кансэрватыўнасьць выкладчыцкага мысленьня (настаўнікі - звычайныя людзі), залежнасьць ад дырэктываў, незалежнасьць ад сваіх задумаў і свайго бачаньня сыстэмы выхаваньня дзеля таго, каб хоць неяк перабіцца з сваімі сем'ямі ў цяжкую хвіліну працягласьцю ў неакрэсьлены пэрыяд. Як вынік, атрымліваецца сурагат. На выхадзе яго, насуперак імкненьня настаўніка да выхаваньня паўнавартаснага грамадзяніна-беларуса маем маргінала з нехрысьціянскай плебейскай ідэалёгіяй. Зноў, як дзесяць гадоў таму, зьяўляецца вялікая хлусьня пра беларусаў, новыя «нестары-чырнарызцы» выконваюць сацыяльную замову для свайго гаспадара.

Зараз у асяродзьдзі беларусаў абмяркоўваецца пытаньне неабходнасьці адкрыцьця свайго Нацыянальнага Ўнівэрсытэту. На жаль, канцэпцыя разьвіцьця гэтай установы пакуль мала даступная для людзей, калі гэткая існуе ў прыродзе. Прынамсі, сама гутарка пра гэта ўжо сьведчыць аб тым, што нарэшце, навукоўцы прызналі брак выхаваньня або яго стратнасьць у сыстэме адукацыі РБ. Выходзячы з той друкаванай інфармацыі, якая да мяне паступіла наконт прышласьці Ўнівэрсытэту, выклікае незразумеласьць статусу яго. Установа падобнага кшталту мае быць недзяржаўнай (гэтым будзе забясьпечана яе незалежнасьць). Незразумелым для мяне зьяўляецца стаўленьне нашых карыфеяў ад навукі да месца тэалягічнага факультэта ў структуры гэтай навучальнай установы. Неабходна ўключыць гэты факультэт у структуру яе. Часовая адсутнасьць спэцыялістаў (хоць іх можна знайсьці ў Краі) можа быць запоўнена запрошанай прафэсурай суседзяў (заходніх краінаў), і не павінна стаць прычынай адмовы ў яго існаваньні.

Калі сказана «А», то лагічным стала б выгукнуць - «Б». Хто будзе навучацца ў гэтым Унівэрсытэце? У асноўным, гэта павінны быць выпускнікі беларускіх школаў. Ня ведаю пра стан па краіне - у Гародні іх няма ніводнай. Значыць трэ' адкрываць прыватныя школы для беларусаў, заснаваныя на стваральнай ідэі. Галоўным крытэрыем яе стане фармаваньне беларуса-эўрапэйца (паводле мэнтальнасьці). Я думаю, ніхто не аспрэчыць важнасьці стварэньня ў мурох будучага Ўнівэрсытэту адметнай духоўнай атмасфэры. Але гэтая атмасфэра можа быць толькі пры пераемнасьці традыцыяў, узятых са школы сапраўды беларускай. Для захаваньня сродкаў першымі, сапраўды беларускімі будуць школы трэцяй, завяршальнай ступені (10-х - 11-х клясаў). Гэты ўзрост бачыцца мне найбольш спрыяльным для працэсу выхаваўча-патрыятычнага. Больш складаны ён для маладзейшых групаў. Менавіта наша школа для акрэсьленай катэгорыі вучняў можа стаць прыступкай для фармаваньня нацыянальна-выхаванага чалавека.

Гісторыя нас павінна навучыць.

**Вітаўт Парфенёнак, сябра ТБМ**

# Вось табе і «образовательные стандарты»

**Паводле задання Міністэрства адукацыі РБ аўтарскім калектывам Нацыянальнага інстытута адукацыі распрацаваны «Руководящие документы Республики Беларусь» («образовательные стандарты»).**

Зараз гэты тэкст разасланы па школах. Згодна з яго палажэннямі, настаўнікі павінны патрабаваць у вучняў адпаведныя веды. Спачатку варта зазначыць, што гэты «Документ» яскрава і аб'ектыўна адлюстроўвае стан і стаўленне да мовы беларусаў дзяржаўных органаў РБ. У «Документе» па-беларуску напісаны толькі назвы раздзелаў па прадметах навучання. Усяго 60 беларускіх словаў на 391 старонцы тэксту.

У настаўнікаў адразу ўзнікае пытанне, якую нацыю прадстаўляе гэты Нацыянальны інстытут. Дарэчы, там столькі ж словаў, тыя ж самыя назвы раздзелаў надрукаваныя на ангельскай мове. Ёсць яшчэ ў тэксце апіскі. Як заўважыў настаўнік матэматыкі з Мастоўшчыны Лявон Карповіч, з якому сярод іншых належыць карыстацца палажэннямі «Документа» ў працы, у раздзеле «павышаны ўзровень па матэматыцы» заніжаны. І заніжаны настолькі, што дакладнае яго выкананне не дасць магчымасці вучню здаць уступныя экзамены ў ВНУ без рэпетытара. Адпаведна словам Лявона Карповіча, «Документ» мае выразную накіраванасць супраць вучня.

**Язэп Палубятка**

ГРАМАДСТВА

# З абаронай правоў у нас усё добра, а будзе яшчэ лепей!?

**Напрыканцы мінулага года Беларускае тэлебачанне вуснамі міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь Г.Варанцова бадзёра паведаміла пакуль яшчэ даверліваму электарату, што мінулы 1999 год азнаменаваўся чарговымі поспехамі дзяржавы і яе судовай сістэмы ў барацьбе па абароне законных правоў і інтарэсаў грамадзянаў. Высокі дзяржаўны чыноўнік ад юрыспрудэнцыі запэўніў, што ў 2000 годзе будзе адбывацца далейшае паляпшэнне справаў у гэтай важнай сферы дзейнасці. З асаблівым задавальненнем міністр юстыцыі зазначыў, што ў мінулым годзе значна ўмацавалася матэрыяльная база многіх судоў: былі названы канкрэтныя лічбы зноў пабудаваных і капітальна адрамантаваных будынкаў і памяшканняў судовых установаў, набытай мэблі, спецыяльнага абсталявання і аргтэхнікі. Але, як далей падкрэсліў Г.Варанцоў, патрэбы судоў краіны ва ўсім гэтым яшчэ далёка не задаволены, па-ранейшаму застаюцца вялікімі, і на ўсё гэта патрэбны немалыя грошы.**

І, трэба думаць, грошы гэтыя будуць знойдзены. Бо каго каго, а суддзяў і міліцыянтаў цяперашняя ўлада трымае ў асаблівай пашане. Хто ж, як не яны, з'яўляецца галоўнай надзеяй і апорай усталяваных цяперашнім рэжымам бюракратычна-паліцэйскіх парадкаў, а таксама, так бы мовіць, караючым мячом існуючага рэжыму.

Вось і у нас, у Астраўцы, мясцовы раённы суд адсвяткаваў свае ўваходзіны і перабраўся ў рэканструяваны і капітальна адрамантаваны будынак былога райбыткамбіната. У новым, добра абсталяваным памяшканні неўзабаве з'явіўся і яшчэ адзін вельмі характэрны для сённяшняй улады каштоўны атрыбут яе рэспектабельнасці - міліцэйскі пост аховы на ўваходзе, які асабіста мяне і яшчэ двух грамадзянаў раёна, адпаведна загаду старшыні суда, у памяшканне прапускае толькі паводле яго асабістага дазволу. Мая спроба даведацца ў старшыні суда - чым я заслужыў такую «павагу» - засталася без адказу. Напэўна, гэта ёсць вялікая тайна Астравецкага правасуддзя.

У мінулым годзе прапускны пункт з'явіўся і ў самай галоўнай раённай дзяржустанове - райвыканкаме. Праўда, тут гэты пункт пакуль не вельмі страшны, бо цывільны і без камуфляжу. Чаму так узмоцнена ўлада адгароджваецца аховай ад простага народа, можна толькі здагадацца. Але, напэўна, «ведае кошка, чыё сала з'ела?»

Вернемся аднак да таго, што сцвярджае наконт абароны правоў ды інтарэсаў грамадзянаў міністр юстыцыі, і, ці можна падзяліць яго бадзёры аптымізм адносна стану справаў у гэтай сферы. Адказ на гэтае пытанне можа быць толькі адмоўным. Беззаконня і самавольства, звязаных з парушэннем правоў грамадзянаў не толькі не паменшала, але стала яшчэ больш. І замест таго, каб з усім гэтым сапраўды весці бескампрамісную барацьбу, улады альбо нічога не робяць, альбо, у лепшым выпадку, займаюцца цынічнай імітацыяй гэтай барацьбы. Разам з тым, з кожным годам для грамадзянаў ствараецца ўсё болей і болей штучных перашкодаў у ажыццяўленні абароны сваіх правоў у судах. Вядома, што ў адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ (арт.60), кожнаму грамадзяніну гарантуецца абарона яго правоў і свабодаў кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаны законам тэрмін. Але гэтая канстытуцыйная норма сёння ў нас не выконваецца, бо цалкам залежыць ад плацежаздольнасці грамадзяніна, альбо, іншымі словамі, ад магчымасці грамадзяніна заплаціць дзяржпошліну, памеры якой зараз для большасці сталі проста напад'ёмнымі.

Першае, вельмі значнае падвышэнне ставак дзяржпошлінаў за падачу і разгляд у судах скаргаў і заяваў, было зроблена яшчэ ў 1998 годзе, калі яны выраслі адразу ў 5-10 разоў і былі «прывязаныя» да мінімальнай заробнай платы. Але гэтага падалося мала. Другое, не меней значнае, падвышэнне адбылося ў верасні мінулага года, калі ўрад сваёй пастановай N1330 зноў у пяць разоў падняў стаўку дзяржпошліны за падачу заяваў і скаргаў у суды. Калі ўлічыць, што ў краіне перыядычна расце МЗП, да якой «прывязана» дзяржпошліна, але адначасова катастрафічна зніжаецца жыццёвы ўзровень большай часткі насельніцтва, то дзяржаўная пошліна не проста расце, а расце ў геаметрычнай прагрэсіі.

Ці многім сёння па кішэні заплаціць дзяржпошліну, якая перавысіла дзесяць мільёнаў недэнамінаваных рублёў і пры гэтым не адмовіць сабе ў самым неабходным? Пагадзіцеся, добры сродак вынайшла ўлада каб істотна паправіць статыстыку з абаронай правоў грамадзянаў у краіне і каб збіць хвалю судовых скаргаў і заяваў людзей у суды. Гэта далёка не адзіны сродак, якім з поспехам карыстаюцца нашы суды для таго, каб зменшыць колькасць сваіх кліентаў і трымаць судовую статыстыку пад кантролем. Адным з такіх прыёмаў, прычым, добра выпрабаваным у савецкія часы, з'яўляецца славутая судовая валакіта. Ведаючы пра гэта, не кожны грамадзянін адважыцца кінуцца ў вір судовай спрэчкі, калі часам звычайная справа, якую ў цывілізаванай краіне суд разгледзеў бы за лічаныя хвіліны, расцягваецца на многія месяцы і нават гады. А калі хто і звернецца ў суд, то не кожны вытрымае гэты судовы марафон, а часам нават звычайны здзек над здаровым сэнсам, які адбываецца ў нашых судах.

Кажу пра гэта ўпэўнена, не з чужых словаў, таму што на асабістым вопыце зведаў тое, як працуе наша судовая сістэма. Мне добра вядома, што калі табе ў судзе процістаіць дзяржава ці якаянебудзь службовая асоба, то твае шанцы выйграць справу роўныя нулю. А калі ты яшчэ і ў апазіцыі да гэтай улады, то можаш і не марыць пра тое, што ў судзе выйдзеш пераможцам. У гэтым выпадку суды і суддзі будуць кіравацца не законам, а толькі мэтазгоднасцю і пачуццём асабістай бяспекі за магчымую расплату перад усемагутнай прэзідэнцкай вертыкаллю. І таму пераадолець кансалідаваную кругавую абарону «честі судейского мундира» ў такіх умовах няма змогі нікому.

Калі да вышэйзгаданага дадаць яшчэ і той вэрхал, які пануе ў краіне ў заканатворчай дзейнасці пасля праведзенага сумнавядомага рэферэндума 1996 года, то ні пра якое захаванне законнасці і абарону правоў грамадзянаў гаварыць не даводзіцца.

Хіба можна назваць прымальнай, з прававога пункту гледжання, сітуацыю, калі ў краіне існуюць два заканатворчыя органы - прэзідэнт і прызначаны ім кішэнны палатачны парламент. Прычым, першы заканатворца мае значныя перавагі перад другім, хоць і мае права выдаваць толькі часовыя заканадаўчыя акты-дэкрэты. Але гэтыя дэкрэты, на самой справе, маюць безумоўную перавагу і вяршэнства над дзеючымі законамі, фактычна адмяняючы ці прыпыняючы іх. Добра вядома, што многія прынятыя прэзідэнцкія дэкрэты, як сведчаць пра гэта многія юрысты-прапаведы, супярэчаць Канстытуцыі, абмяжоўваць правы і свабоды грамадзянаў і скіраваныя, галоўным чынам, на ўмацаванне рэжыму асабістай улады аднаго чалавека і яго «вертыкальнай» уладнай падпоры. Усё гэта не можа не бачыць Канстытуцыйны суд краіны. Але і яго месца ў краіне вызначана - маўчаць, і толькі раз у год зрабіць даклад пра чарговыя «выдатныя» поспехі судовай улады.

Такім чынам, сцвярджэнні міністра юстыцыі Г.Варанцова наконт нейкага там прагрэсу, які нібыта акрэсліўся ў справе абароны правоў грамадзянаў у краіне, гэта ні што іншае, як чарговая прапагандысцкая балбатня.

Гісторыя ўжо вынесла свой суровы прысуд той грамадскай сістэме, для якой правы чалавека заўсёды былі пустым гукам - імя якой таталітарызм, іржавы механізм якога зноў адрэстаўраваны і запушчаны ў Рэспубліцы Беларусь. Ягонае месца на сметніку гісторыі. І наша задача - гэты справядлівы прысуд гісторыі выканаць як мага хутчэй.

**Мікалай Уласевіч**

# Хору «Glos znad Niemna» - пяць гадоў

**У гарадскім Доме культуры адбыўся справаздачны канцэрт знакамітага польскамоўнага хору «Glos znad Niemna». Прывітаць калектыў сабраліся яго прыхільнікі з Гродна, Менска, Ліды, Гданьска. З Гданьска прыехалі прадстаўнікі таварыства «Сябры Гродна і Вільні». Віншавальныя тэлеграмы даслалі ўдзячныя гледачы з Беластока, Варшавы, Кракава, Жырардува, Шчэціна. У свой час самадзейныя артысты пабылі там на гастролях.**

Хор распачаў сваю творчую біяграфію 10 лютага 1995 года. Ля вытокаў стварэння стаяў Саюз палякаў на Беларусі. Цяперашняя назва была нададзена праз год. Калектыў налічвае каля 30 чалавек. Нязменным мастацкім кіраўніком з'яўляецца Віктар Адамовіч. Яму ўрачыста было ўручана пасведчанне ганаровага сябра СПБ. За мінулы час хор стаў адметным і вядомым. Гэта своеасаблівая візітоўка палякаў Гарадзеншчыны. У рэпертуары хору дзесяткі фальклорных песняў, якія набылі другое жыццё. Нямала твораў напісана Віктарам Адамовічам на глыбока лірычныя вершы гарадзенскага паэта Рычарда Кацынэля.

Консул Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне Хенрык Каліноўскі заўважыў, што наднёманскія песні беларускіх палякаў - гэта сапраўдны скарб. Яны ўласцівыя толькі гэтаму краю, выклікаюць вялікую зацікаўленасць слухачоў у Польшчы.

Прысутныя пераканаліся, што кожны ўдзельнік хору - адметная асоба, якая валодае ўнікальнымі вакальнымі здольнасцямі. Песні гучалі ў выкананні асобных артыстаў, дуэтаў. Былі выкананы творы, прысвечаныя героям Монта-Касіна, Адаму Міцкевічу, Варшаве, наднёманскаму краю, гораду Гродна. Віктар Адамовіч паклаў на музыку знакаміты верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь». І гэтая песня знайшла сваё пачэснае месца ў рэпертуары хору.

Вечарына ўдалася. Пра гэта сведчылі цёплыя апладысменты. Прыкрым жа было тое, што гарадскія ўлады, у прыватнасці, аддзел культуры гарвыканкама, праігнаравалі такую з'яву ў культурным жыцці горада, як пяцігоддзе польскамоўнага хору «Glos znad Niemna». Ён даўно заслугоўвае надання яму звання народнага.

**Антон Лабовіч**

# «Аэраплан зваліўся на вёску»

**11 лістапада 1999 года ў артыкуле «Аэраплан зваліўся на вёску» ПАГОНЯ паведамляла пра авіяаварыю, якая адбылася 2 лістапада ў вёсцы Тапілішкі. У аварыі загінулі абодва пілоты.**

Наша газета прасачыла, чым завяршылася следства, распачатае органамі Транспартнай пракуратуры Гродна. Справа была закрыта 30 снежня 1999 года паводле артыкула 82 ч.1: «Парушэнне правілаў бяспекі паветранага руху...». Аварыя адбылася па віне саміх пілотаў. Валерый Журавель, які знаходзіўся ў задняй кабіне кіраўніка, не справіўся з кіраваннем. У Івана Гайдукевіча экспертыза выявіла невялікую дозу алкаголю ў крыві.

Дзеянні пілотаў былі кваліфікаваны як хуліганства. Выпісваць віражы ды іншыя паветраныя штукі над населенымі пунктамі забаронена.

Цікава толькі, як начальнік авіятэхнічнага спартовага клубу «Віраж», якому належаў пабіты аэраплан «Санта» ды трохразовы чэмпіён рэспублікі па дэльтаплану Валерый Журавель не справіўся з кіраваннем.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Калекцыянуйце на здароўе

**У снежні 1999 года выйшаў дзевятнаццаты нумар газеты «Беларускі калекцыянер». Гэтым нумарам выдаўцы завяршылі яшчэ адзін год свайго існавання.**

У нашай дзяржаве - мноства калекцыянераў, якія збіраюць маркі, паштоўкі, сцягі, значкі і яшчэ мноства розных рэчаў. Многае з гісторыі гэтых рэчаў дапамагае пазнаць газета «Беларускі калекцыянер».

У дзевятнаццатым нумары «БК» мы можам даведацца пра многае з таямніцаў «слуцкіх марак». Для чаго і дзе яны былі надрукаваныя? Дзе яны зараз знаходзяцца? Тут жа можна ўбачыць і адну з вялікіх расейскіх авантураў 90-х гадоў - квіткі славутага маскоўскага АТ «МММ» з тварам свайго «бацькі» - У.Маўродзі. Вялікая частка газеты апавядае пра беларускія латарэйныя і дабрачынныя квіткі. У нумары ёсць інфармацыя наконт складу ўдзельнікаў Першай нацыянальнай філатэлістычнай выставы ў Менску.

У газеце ёсць і фотаздымкі амаль усіх дакументаў, пра якія вядзецца гаворка, а таксама шмат аб'яваў калекцыянераў з усяе Беларусі.

# Запрашае «Лідскі летапісец»

**Напрыканцы старога года выйшаў восьмы нумар часопіса «Лідскі летапісец». Гэтым нумарам выдаўцы завяршылі першы этап выдання свайго часопіса, можна сказаць, этап станаўлення. Напрыканцы года часопіс быў зарэгістраваны ў Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь. Сёння яго можна набыць у лідскай кнігарні «Кніжны свет», а таксама - у шапіках «Белсаюздруку» г.Ліды, у сядзібах БНФ і ТБМ г.Менска. Выдаўцы спадзяюцца ў хуткім часе адкрыць падпіску на свой часопіс.**

На першай старонцы распавядаецца пра кнігі, звязаныя з гісторыяй і культурай Беларусі, якія былі надрукаваны беларускімі выдавецтвамі ў перыяд «ліпень-снежань» 1999 года. Далей лідскі гістарычны каляндар дапамагае зрабіць экскурс у гісторыю г.Ліда. Шмат увагі надаецца ў часопісе людзям. У гэтым нумары апавядаецца пра трагічны і ў той жа час цікавы лёс Вацлава Яўгенавіча Гебельта, «філолага па адукацыі, шахматыста па прызванні, бухгалтара па прафесіі». Прачытаўшы гэты часопіс, я даведаўся пра адзіны на Беларусі сонечны гадзіннік у Троіцкім касцёле, каля в.Ішчолна.

У гэтым нумары змешчаны «Прывілей караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта III аб наданні гораду Лідзе Магдэбургскага права» і некаторыя тлумачэнні з гэтай нагоды старшага навуковага супрацоўніка Лідскага краязнаўчага музея Валерыя Слюкіна. Тут жа можна прачытаць і пра ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў XIII - XIV стагоддзях. Пра гэта апавядае артыкул «Бітва на Ворскле» Станіслава Судніка. У нумары таксама можна прачытаць паэму Адама Міцкевіча «Гражына» ў перакладзе Сяргея Дзяргая.

Рэдактар Станіслаў Суднік просіць тых, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас рэдакцыі: Ліда-2, п/с 7.

**Юрый Кузняцоў**

# «Які даход Вы атрымаеце ў 2000?»

## - такое пытанне ставіць перад намі «Дэкларацыя аб даходах»

Калі ты, чытач, зарабіў грошы не толькі на асноўным месцы працы, але таксама па сумяшчальніцтву (паводле працоўнага дагавора, падраду, аўтарскага дагавору і г.д.), ты мусіш абавязкова падаць дэкларацыю пра даходы ў падатковыя органы. Там падсумуюць усе твае даходы, і калі ты зарабіў болей як 227 мільёнаў за год (ну недзе 300 умоўных адзінак), то ў цябе яшчэ возьмуць дадатковы падатак. Напэўна, наш урад лічыць, што сумяшчальнікі занадта ўзбагачаюцца - трыста баксаў, гэта ж шалёныя «бабкі»!

Таму падатковая інспекцыя прысуджае табе персанальны нумар - пажыццёва, звярніце ўвагу (проста жах бярэ ад гэтага слова). Статус падаткаплацельшчыка, пішуць яны ў сваім паведамленні, - «фізічная асоба». Форма гаспадарчай дзейнасці - «93 000 - прадстаўленне іншых відаў паслуг». Паводле беларускага заканадаўства фізічныя асобы гаспадарчай дзейнасцю не займаюцца - але ў падатковай інспекцыі на гэты конт іншая думка. Зрэшты, неардынарнасць гэтай установы ўсім вядомая.

Калі ты зарабіў больш за гэтыя «шалёныя бабкі», за гэтыя 227 мільёнаў недэнамінаваных беларускіх рублёў, табе дадуць паперку, дзе напісана, што «Вы абавязаны заплаціць» некалькі мільёнчыкаў на рахунак урада гэтай краіны. Урад пабудуе потым Лядовы палац, альбо пагудзіць на Дажынках ці зляятае на алімпіяду ў Сіднэй. Праўда, гэта не твая паганая справа - куды трацяць твае грошы, табе ведаць забаронена. Так сказаў «Рэферэндум»...

Даплаціць ты мусіш да 15 траўня. Рэкамендую ўносіць грошы ў апошні дзень - за тры месяцы інфляцыі на гэтым зэканоміш каля паловы сумы.

**Сяргей Самасей**

# Прадпрымальнікі і ўлада. Баявая нічыя?

**Рашэннем стачачнага камітэту забастоўка прадпрымальнікаў прыпынеіцца з 12 лютага 2000 года (тыя, хто жадае «дагуляць» адпачынак у лютым, могуць гэта зрабіць). Прычынаў для прыпынення забастоўкі некалькі.**

Першая прычына. Улада прызнала свае памылкі і заявіла, што яна гатовая пачаць перамовы ў тым выпадку, калі Свабодныя прафсаюзы прадпрымальнікаў прыпыняць акцыі пратэсту (забастоўку). Мы праяўляем добрую волю і паказваем уладзе, што мы гатовыя зрабіць такі захад дзеля істотнага вырашэння канфліктнай сітуацыі. Мы даем уладам апошні крэдыт даверу і спадзяемся, што чыноўнікі ўсіх узроўняў атрымаюць урокі з дадзенай забастоўкі ды пакінуць рабаваць сваіх грамадзянаў.

Калі ж прапановы ўладаў наконт пачатку рэальных перамоваў, адмены ПДВ, велізарных штрафаў і г.д. - чарговы «выкрутас» і падман, то мы арганізуем ва ўсіх гарадах Рэспублікі Беларусь масавыя акцыі пратэсту (мітынгі, шэсці і д.п.) з удзелам усіх пластоў насельніцтва.

Прычына другая. ПДВ павінен быць адменены да 20 лютага 2000 года. У адваротным выпадку ўсе падатковыя інспекцыі будуць налічваць ПДВ за студзень 2000 года (А.Сазонаў сцвярджае, што адзіная прычына, паводле якой не адменены ПДВ, гэта забастоўка прадпрымальнікаў).

Прычына трэцяя (асноўная). Распачатая дружная забастоўка прадпрымальнікаў пайшла на спад. Як сведчыць практыка, калі выйшла працаваць болей за 25 працэнтаў прадпрымальнікаў, працягваць забастоўку не мае сэнсу.

Некаторыя прадпрымальнікі напраўду «бараны». Пакуль іх не завядуць ў забойны цэх - думаць не пачнуць. Ёсць яшчэ адна група прадпрымальнікаў - «хапугіаднадзёнкі». Ім самае галоўнае - «нахапаць», а там хоць трава не расці. Карыстаючыся адсутнасцю канкурэнцыі падчас забастовак, іх даход значна павялічыўся. І, канешне, сапраўды здраджваюць нашым інтарэсам прадпрымальнікі, што працуюць на ўладу і праўрадавыя прафсаюзы. Гэта тая група людзей, якія зрабілі ўсё, каб забастоўка была менш эфектыўнай.

Лыжкай дзёгцю можна сапсаваць бочку мёду. Калі б не гэтыя нікчэмныя людзі, мы здолелі б шмат чаго дамагчыся.

Прычына чацвёртая. У нас, у стачкама, недастаткова сродкаў, каб супрацьстаяць дэзінфармацыі, якая штодня ліецца з дзяржаўных СМІ. Забастоўка вымагае вялізных расходаў (камадзіровачныя, выпуск улётак і бюлетэняў і д.п.), сёння ў нас няма для гэтага грошай.

Пятая прычына - масавыя рэпрэсіі з боку дзяржавы супраць актывістаў Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў.

Мы спадзяемся, што ўлады скарыстаюцца нашай добрай воляй, сядуць за стол перамоваў, створаць спрыяльныя ўмовы для аднаўлення працы прадпрымальнікаў, якія вырашылі пачаць гандляваць у лютым 2000 года, абвесцяць «мараторый» на выкарыстанне карных мераў паводле Дэкрэтаў і Указаў прэзідэнта РБ да заканчэння перамоваў. Мы прапануем уладзе не распальваць канфлікт, а заняцца вырашэннем канкрэтных праблемаў беларускіх прадпрымальнікаў.

Мы атрымалі перамогу альбо прайгралі? Я б сказаў, што першы этап процістаяння скончыўся ўнічыю. З аднаго боку, мы правялі добры мітынг 31 студзеня 2000 года, дамагліся амаль 100-працэнтнай забастоўкі прадпрымальнікаў на пачатку лютага, прымусілі ўлады прызнаць зробленыя імі памылкі, павялічылі колькасць сваіх прыхільнікаў. Больш таго. Цяпер улады (калі не дурні) не будуць бліжэйшым часам выкарыстоўваць санкцыі да прадпрымальнікаў і будуць думаць перад прыняццем актаў, што ўшчымляюць правы прадпрымальнікаў. З другога боку, улада захавала сваё «аблічча» і прапанавала распачаць перамовы.

Нашы далейшыя дзеянні будуць залежаць выключна ад пазіцыі ўлады на перамовах са Свабодным прафсаюзам, калі перамовы гэтыя не з'яўляюцца чарговым падманам.

**Валерый Леванеўскі**

# Дзвюхпакаёвая ў 1996 годзе = трохпакаёвая ў 2000-ым

**З моманту нашага апошняга агляду рынку нерухомай маёмасці (кастрычнік 1999 года) кошты на «жыллё» знізіліся на 3-4 працэнты, нават нягледзячы на шматлікія прагнозы спецыялістаў-рыэлтараў па стабілізацыю цэнаў на нерухомую маёмасць, і перш за ўсё, на кватэры.**

Безумоўна, 3-4 працэнты - гэта не такія ўжо і вялікія лічбы. Аднак сама тэндэнцыя!.. У чым жа прычыны далейшага несупыннага падзення коштаў на кватэры?

Прычынаў гэтых можна вылучыць некалькі. Перш за ўсё - падзенне даходаў грамадзянаў Беларусі ў параўнанні з ростам інфляцыі (плюс 44,9 працэнта да кастрычніка 1999 года) і з ростам курсу амерыканскага даляра (плюс 32,9 працэнта за таго ж перыяду). Наступная прычына - высокі рост прапановы кватэраў пры недастатковым рэальным попыце на іх. Сёння суадносіны прапановы да рэальнага попыту - 5,94:1 (у кастрычніку 1999 года было 5,22:1). Немалаважнымі прычынамі зніжэння кошту на кватэры ў перыяд з сярэдзіны кастрычніка 1999 года па канец студзеня 2000 года таксама з'яўляюцца: 1) агульная ўсходне-еўрапейская тэндэнцыя падзення цэнаў на нерухомую маёмасць: Украіна, Літва, Латвія, Чэхія, Славакія, Расейская Федэрацыя (за выключэннем Масквы і Санкт-Пецярбурга плюс 2,36 працэнта да кастрычніка 1999 года), Малдова, Румынія і Венгрыя; 2) рэзкае зніжэнне курса еўра, нямецкай маркі ў дачыненні да даляра ЗША (цана жылля ў еўра ці нямецкіх марках засталася ранейшай, а ў амерыканскіх далярах зменшылася).

Вышэйуказаныя прычыны (у тым ліку і дзве апошнія) выліліся ў зніжэнні коштаў на гарадзенскія кватэры на 3-4 працэнты да паказчыкаў кастрычніка 1999 года. Найбольш патаннелі аднапакаёвыя «хрушчоўкі» і чатырохпакаёвыя кватэры - на 5,23 працэнта. На 4-5 працэнтаў таннейшымі сталі кватэры на першых і апошніх паверхах (вельмі цяжка прадаваемае жыллё), у сярэднем на 2-3 працэнты патаннелі астатнія кватэры.

На 31 студзеня у Гродне быў прадстаўлены на продаж наступны дыяпазон кватэраў з адпаведнымі коштамі (гл. табліцу).

Па-ранейшаму цана кватэры залежыць ад колькасці пакояў, што само сабой зразумела; а таксама ад планіроўкі, тыпу дома, месцазнаходжання дома, паверха, стану кватэры (рамонт) і шэрагу іншых фактараў. Напрыклад, студзеня 2000 года кватэры новай планіроўкі ў Гродне ў сярэднім каштавалі:

- аднапакаёвая - 7800 у.а.;
- дзвюхпакаёвая - 10500 у.а.;
- трохпакаёвая - 13900 у.а.;
- чатырохпакаёвая - 16300 у.а.

Для параўнання, у недалёкім чэрвені 1996 года такія ж кватэры ў Гродне ў сярэднім каштавалі:

- аднапакаёвая - 9900 у.а.;
- дзвюхпакаёвая - 13700 у.а.;
- трохпакаёвая - 17500 у.а.;
- чатырохпакаёвая - 20300 у.а.

На падставе вышэйуказаных дадзеных можна зрабіць высновы: сённяшні кошт дзвюхпакаёвай кватэры роўны кошту дзвюхпакаёвай кватэры 1996 года, за 16300 умоўных адзінак зараз можна набыць чатырохпакаёвую кватэру новай планіроўкі, а ў 1996 годзе за такую ж суму немажліва было б купіць нават трохпакаёвую кватэру. Працэс відавочны...

Сёння цэны на кватэры з другаснага рынку жылля толькі на 15-20 працэнтаў вышэйшыя за сабекошт узведзенага новага жылля. Хаця некаторыя спецыялісты ўпэўнены, што на 5-10 працэнтаў. Атрымліваецца, далей таннець кватэрам проста няма куды. Ды і сёння, бадай, больш выгадна набыць кватэру на рынку другаснага жылля, чым новую кватэру ў новым доме (нават паэтапна, выплочваючы умоўныя адзінкі на працягу двух-чатырох гадоў).

Іншая справа, калі кватэру (у тым ліку і з рынку другаснага жылля) можна было б набыць у растэрміноўку на 10-15 гадоў, а то і на ўсе 49 гадоў (як прадаецца нерухомая маёмасць за мяжой). На жаль, у Беларусі гэта практыкуецца надзвычай рэдка.

Такім чынам, рынак нерухомай маёмасці перажывае застойныя часы з невялікім патаненнем «жылля» штомесяц. Зніжацца далей коштам засталося не так і шмат, блізкі сабекошт, а рэальнага попыту (магчымасцяў) амаль няма.

Ажыўленне на рынку жылля мажлівае толькі з агульным паляпшэннем палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, з захаваннем правоў чалавека і грамадзяніна. Для пачатку, у адпаведнасці з часткай 2 артыкула 21 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь хацелася б, каб кожны беларус меў права на сапраўды годны ўзровень жыцця, у тым ліку дастатковае харчаванне, адзенне і жыллё.

**Сяргей Міронаў**

| Месцазнаходжанне | Кольк. пакояў | Планіроўка | Тып дома | Кошт кватэры ў у.а. |
|---|---|---|---|---|
| вул.Урублеўскага | 1 | хрушч. | панэльны | 5300-6000 |
| пр-т Касманаўтаў | 1 | хрушч. | цагляны | 5900-6400 |
| вул.Курчатава | 1 | новая | панэльны | 7200-7900 |
| вул.Сацыялістычная | 1 | сталінс. | цагляны | 7900-8400 |
| вул.Гая | 1 | хрушч. | панэльны | 5300-6000 |
| вул.Ліможа | 1 | новая | панэльны | 6900-7500 |
| пр-т Я.Купалы | 1 | брэжн. | панэльны | 7000-7400 |
| вул.Таўлая | 1 | новая | панэльны | 6900-7500 |
| вул.Рэпіна | 2 | новая | панэльны | 9600-10300 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | 2 | новая | панэльны | 9600-10300 |
| вул.Фамічова | 2 | брэжн. | панэльны | 9400-10100 |
| вул.Урублеўскага | 2 | брэжн. | панэльны | 9500-10200 |
| вул.Кляновая | 2 | новая | цагляны | 9800-10600 |
| вул.Кірава | 2 | сталінс. | цагляны | 9700-10400 |
| вул.Дамброўскага | 2 | хрушч. | панэльны | 7300-7800 |
| вул. Дзяржынскага | 2 | новая | панэльны | 9500-10200 |
| вул.Шчорса | 2 | новая | панэльны | 9900-10800 |
| пр-т Касманаўтаў | 2 | хрушч. | цагляны | 7700-8100 |
| пр-т Будаўнікоў | 2 | брэжн. | панэльны | 9900-10500 |
| вул.Леніна | 2 | брэжн. | цагляны | 10600-11100 |
| вул.Болдзіна | 2 | новая | панэльны | 10300-10900 |
| вул.Міра | 2 | хрушч. | панэльны | 7100-7800 |
| вул.Каліноўскага | 3 | брэжн. | панэльны | 14700-15200 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | 3 | новая | панэльны | 12900-13800 |
| вул. Горкага | 3 | новая | цагляны | 15600-16300 |
| вул.Церашковай | 3 | новая | панэльны | 14700-15100 |
| вул.Ліможа | 3 | новая | панэльны | 12300-12700 |
| вул.Дзяржынскага | 3 | новая | панэльны | 12700-13100 |
| вул.Пестрака | 3 | брэжн. | панэльны | 13600-14200 |
| пр-т Касманаўтаў | 3 | хрушч. | цагляны | 9400-9900 |
| вул. Шчорса | 3 | новая | панэльны | 14400-15000 |
| вул.Таўлая | 3 | новая | панэльны | 13600-14200 |
| вул.Дамброўскага | 3 | хрушч. | панэльны | 9100-9500 |
| вул.Фамічова | 3 | брэжн. | панэльны | 13700-14200 |
| вул.Міра | 3 | хрушч. | панэльны | 9100-9500 |
| вул.Сав.Пагранічнікаў | 3 | новая | панэльны | 14000-14400 |
| вул.Рэпіна | 3 | новая | панэльны | 13800-14200 |
| пр-т Я.Купалы | 3 | брэжн. | панэльны | 13600-14100 |
| вул.Кляновая | 4 | новая | цагляны | 15900-16300 |
| вул.Ліможа | 4 | новая | панэльны | 14400-15000 |
| вул.Горкага | 4 | новая | цагляны | 17000-17500 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | 4 | новая | панэльны | 14700-15100 |
| вул.Дамброўскага | 4 | хрушч. | панэльны | 10500-10900 |
| вул.Гая | 4 | хрушч. | панэльны | 10100-10600 |
| вул.Болдзіна | 4 | новая | панэльны | 16900-17600 |
| вул.Паповіча | 4 | хрушч. | панэльны | 10400-10800 |

# Літоўскую дзічыну прадаюць на рынках заходніх краінаў

**Акцыянернае таварыства «Vitlit», што дзейнічае ў вёсцы Молайняй Паневежскага раёна, не мае ніякіх перашкодаў для вывазу за мяжу перапрацаванага мяса ласёў, аленяў, казуляў і дзікоў, здабычы літоўскіх паляўнічых.**

Гэтае дзічынаперапрацоўчае акцыянернае таварыства адзінае ў Літве атрымала пасведчанне якасці ветэрынары Еўрасаюза, якое дазваляе АТ экспартаваць прадукцыю ў краіны ЕС. Прадукцыя АТ «Vitlit» вырабляецца паводле сучасных тэхналогіяў.

Зараз прадукты свежай літоўскай дзічыны дасягаюць спажыўцоў Італіі, Германіі, Бельгіі ды Скандынавіі. Прадпрыемства перапрацоўкі дзічыны вывозіць ў гэтыя краіны звыш 90 працэнтаў прадукцыі. У мінулым годзе паляўнічыя прадалі прадпрыемству 2 500 казуляў, 220 ласёў, 270 аленяў.

# Сярэдні заробак: Германія, Францыя - зніжэнне; Беларусь - падвышэнне

**Адпаведна дадзеным Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, у 1999 годзе сярэднямесячны налічаны заробак рабочых і служачых Беларусі ўзрос з 33 да 46 даляраў ЗША ў пераліку па рынкаваму наяўнаму курсу.**

У сувязі з падвышэннем са студзеня мінімальнага заробку і тарыфу першага разраду, у лютым 2000 года сярэднямесячная заробная плата ў цэлым па краіне складзе 52 даляры ЗША. Шмат гэта альбо не? Калі параўнаць з лютым мінулага года (сярэдні заробак складаў 31 даляр ЗША), дык гэта няшмат. У параўнанні з сярэдняй зарплатай у 1994 годзе (108 даляраў ЗША) - то ў два разы горш. А вось калі супаставіць з сённяшнімі сярэднямесячнымі заробкамі ў Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, Нарвегіі ці нават з такімі ж паказчыкамі ў Чэхіі, Славеніі, Андоры, то беларусы са сваёй сярэднямесячнай заробнай платай не жывуць, а існуюць альбо дажываюць.

Паводле дадзеных аналітычнага цэнтру «Рынкавая эканоміка», з лютага 1999 года па люты 2000 года сярэднямесячны заробак узрос у Вялікабрытаніі, Ірландыі, ЗША і...у Беларусі. Знізілася зарплата - у Германіі, Францыі, Эстоніі, Славеніі; значна не змянілася - у Азербайджане, Арменіі, Расейскай Федэрацыі, Украіне ды іншых дзяржавах (гл. табліцу).

З пададзеных вышэй паказчыкаў сярэднямесячнай заробнай платы, бачна, што ў лідарах - ЗША і Вялікабрытанія, у канцы спісу (па ўзрастанню) - Арменія і Азербайджан, Грузія, Албанія і Беларусь.

Шмат каго можа здзівіць змяншэнне паказчыкаў сярэднямесячнага заробку ў Германіі, Францыі, Швецыі, Канадзе, Італіі, Бельгіі ды іншых высокаразвітых дзяржавах. Справа тут у паслабленні нацыянальных грашовых адзінак у дачыненні да даляра ЗША за мінулы год (у табліцы пададзеныя паказчыкі менавіта ў далярах ЗША). Напрыклад, суадносіны «Вашынгтона» і нямецкай маркі на пачатку мінулага года былі 1:1,768 (напрыканцы 1995 года - 1:1,378), то сёння пазіцыя нямецкай маркі папросту катастрафічная для немцаў. Трэцяга лютага за адзін даляр ЗША на сусветных рынках давалі болей як дзве нямецкія маркі (2,015). Тое самае і з французскім франкам. Суадносіны даляра ЗША і французскага франка з 1:5,662 ператварыліся на працягу мінулых 12 месяцаў амаль у 1:6,5.

| Дзяржава | Сярэднямесячны заробак у $ ЗША | |
|---|---|---|
| | у лютым 2000 г. | у лютым 1999 г. |
| Аўстрыя | 1610 | 1980 |
| Азербайджан | 18 | 16 |
| Албанія | 49 | 66 |
| Арменія | 18 | 14 |
| Андора | 607 | 690 |
| Балгарыя | 112 | 118 |
| Беларусь | 52 | 31 |
| Вялікабрытанія | 2531 | 2420 |
| Венгрыя | 376 | 390 |
| Германія | 1698 | 2100 |
| Грузія | 21 | 20 |
| ЗША | 2903 | 2690 |
| Канада | 2018 | 2150 |
| Латвія | 250 | 247 |
| Літва | 200 | 206 |
| Малдова | 83 | 92 |
| Нарвегія | 2006 | 2100 |
| Польшча | 298 | 305 |
| РФ | 102 | 90 |
| Румынія | 100 | 108 |
| Славенія | 805 | 1060 |
| Украіна | 80 | 97 |
| Фінляндыя | 1620 | 1840 |
| Швецыя | 2015 | 2180 |
| Эстонія | 280 | 336 |
| Югаславія | 198 | 240 |

Аднак вернемся ў Беларусь. Падвышэнне паказчыка сярэднямесячнай заробнай платы да 52 даляраў ЗША - «рэч» прыемная. Але з «сур'ёзнай гарчыцай». Бо ў тым жа даляравым эквіваленце заўважна ўзраслі кошты на прадукты харчавання, прамысловыя тавары, паслугі і гэтак далей. Тым не менш, на наш погляд, лепш болей атрымліваць і болей траціць, чым наадварот. Канешне, 52 даляры ў месяц у Беларусі ў параўнанні амаль з 2000 даляраў у Заходняй Еўропе засмучаюць. Аднак, паглядзіце навокал, а затым «в верха» - і ўсё стане зразумела. Балазе, што і так выраслі за год: аж на 21 умоўную адзінку.

**Максім Жмінда**

# Сёння Грозны - заўтра Гродна

**Падчас паездкі на Украіну мне трапіла ў рукі нізка вершаў украінскага паэта Дмытра Паўлычкі, прысвечаная падзеям першай чачэнскай вайны. Вершы гэтыя, хаця і напісаныя ў 1994-1995 гадах, сёння зноў актуальныя. Хочацца, каб крык душы ўкраінскага песняра, ягоны боль, сорам, гнеў дайшлі да сэрцаў беларусаў. Прапаную чытачам ПАГОНІ тры вершы з гэтага цыклу ў маім перакладзе на беларускую мову.**

**Алесь Лобан**

*«Всё русскому мечу подвластно»*
**А.Пушкин «Кавказский пленник»**

*«Россия - государство не торговое и не земледельческое, а военное, и призвание его быть грозою света»*
**Мікалай І**

## Чачня

Зноў Масква распінае народ,
Што шануе свой дом і імя;
Крыважэрнай арды надыход
Зноў ў баі сустракае Чачня.

Двухгаловы арол у дзве дзюбы
Кроў Чачні не стамляецца піць!
Ну а мы? Мы маўчым, як рабы,
Што баяцца аковы згубіць.

Гэта волі фальшывай мараль,
Крывадушнасць стварае хлусню.
Яшчэ прыйдзе нахабны маскаль
І да нас, як зруйнуе Чачню.

Праметэй! Кроў і здзекі - не сон,
Не заслоніць Парыж ад бяды.
Можа, толькі хлапчына з УНСО
Прынясе табе ў жмені вады.

Не прышле дапамогі сваёй,
Пасмяецца Еўропа ў адказ,
І здалёк паглядзіць, як крывёй
Захлынецца самотны Каўказ.

Будзе твар свой хаваць у вуаль
Ды расейскую слухаць брахню.
Яшчэ прыйдзе нахабны маскаль
І ў Парыж, як зруйнуе Чачню.

Цемра там. Там стаіць Праметэй.
Сонца дай яму, Божа святы!
Я крычу, ды не бачу людзей,
Замест твараў вакол - жывацы.

## Унутраная справа Расіі

Не спяць прэзідэнты
шчаслівых краін,
Крычаць па начах, як вар'яты,
Іх мучыць хандра,
надакучлівы сплін -
Палаюць чачэнскія хаты.

Дабранач, панове! Не трэба турбот-
Адкіньце трызненні пустыя.
Лічыце Масквой змардаваны народ
Унутранай справай Расіі.

Сумленне трывожыць
міністраў яшчэ,
Бо стогнуць каўказскія скалы;
Там з гусеніц кроў маладая цячэ,
Затое у вас - карнавалы.

Вінца, дабрадзеі, глыніце хутчэй -
Ад сораму анестэзіі.
Лічыце забойствы жанчын
і дзяцей
Унутранай справай Расіі.

Звяртае свой лік да Каўказа Гасподзь,
Дзе кроў, нібы нафта, палае,
Дзе сёння пануе не цела, не плоць-
Душа несмяротная ззяе!

Але патрыярх - выхавацель арды,
Крамлёўскі намеснік месіі,
Загад аддае: «Не ўглядайся туды,
Да ўнутраных справаў Расіі».

Хутчэй да малітвы, народы Зямлі!
Спяшайцеся месцы займаць!
Прасіце, укленчыўшы, каб маскалі
Далі вам бяссмерця пазнаць.

Бо вольнасць, і ззянне
Хрыстова Раства,
І мову, і храмы святыя,
І ваша жыццё залічыла Масква
Да ўнутраных справаў Расіі.

## Нявольніца

Панна Еўропа, на неба зірні -
Кроў чырванее, гарыць ў вышыні.
Ў бітву за волю ідуць змагары;
Зоркі, як маці, галосяць ўгары.

Цяжка вісіць над табою Чачня,
Вольнасць знішчае вандалаў
браня;
Чутна праз хмары, як танкі
равуць,
Там, дзе сузор'і Сусвет сцерагуць.

Панна Еўропа, ты лёгка жывеш,
Песні аб шчасці свабодна пяеш.
Заўтра без жалю, пад гусеніц зык
Варвары вырвуць твой спеўны
язык.

Колькі Чачні ты пасля ні крычы:
«Легчы пад танкі мяне навучы!» -
Як зацягнецца на шыі пятля,
Ляжаш нявольніцай пад маскаля.

# Кастусь Каліноўскі заклікае...

## (2.02.1838 - 22.03.1864 гг.)

*- Каго любіш?*
*- Люблю Беларусь.*
*- Так узаемна!*

**Пароль паўстанцаў 1863 года**

У 1838 годзе ў вёсцы Мастаўляны Гарадзенскага павета ў шматдзетнай сям'і беззямельнага шляхціца, уладальніка невялікай фабрыкі льняных вырабаў, народзіцца хлопчык.

4 красавіка пры хрышчэнні ён атрымае імя Вікенція Канстанціна. Аднак родныя і сябры будуць зваць яго Кастусь.

Студзеньскай ноччу 1864 года па адрасе, выдадзеным здраднікам, за Кастусём прыйдуць царскія жандары. Ён адчыніць ім дзверы - дужы мужчына сярэдняга росту з выразнымі рысамі твару і русымі кароткімі, зачасанымі назад валасамі.

Мужчыну схопяць і даставяць у камеру Дамініканскай турмы. Падчас следства і суда ён будзе трымацца надзвычай мужна, а на лісьлівыя прапановы аблегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны таварышаў, адкажа з характэрнай для яго рашучасцю і адкрытасцю: «Усведамленне сваёй годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншым шляху».

10(22) сакавіка ў 10 гадзін 30 хвілін раніцы 26-гадовы Кастусь будзе публічна павешаны на віленскай гандлёвай плошчы Лукішкі. Развітацца з ім прыйдуць тысячы віленцаў...

Так абарвалася жыццё Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання 1860-1863 гадоў на Беларусі і ў Літве. Разам з ім тую ж долю зведалі 128 паўстанцаў. Яшчэ 853-х змагароў па загаду віленскага генерал-губернатара Мураўёва адправілі на катаргу, 12483 - у ссылку. Наш нацыянальны герой, які прысвяціў жыццё справе вызвалення Бацькаўшчыны ад расейскага прыгнёту, здолеў перадаць з турмы на волю свой твор «Лісты з-пад шыбеніцы», напісаны, як і папярэднія, на беларускай мове. Развітальныя словы змагара адрасаваныя роднаму народу, а гэта значыць і ўсім нам.

Вось урывак з запавету Кастуся Каліноўскага, перадсмяротныя словы якога актуальныя і напярэдадні XXI стагоддзя: «Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, абагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой шчыра палюбіць. Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе разам навука з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, на пагібель нашу.

Для таго-та, народзе, як толькі калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тады і ты не аставайся ззаду, ухапіўшы што зможаш, касу, сякеру, і цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе».

**Андрэй Беларэцкі**

# «Высокорослый худой белорус» - з мінуўшчыны ў сучаснасць

**Ніколі не пісаў пра Беларускае тэлебачанне. З тае прычыны, што ніколі яго не гляджу. Бо я не мазахіст. Калі ўжо напружваць вочы, то дзеля задавальнення.**

Так што тое г.., у якім яны там, на ТБ, коўзаюцца - гэта іхняя персанальная справа. Шкада, што за мае грошы. Але з г... лепш не звязвацца, усім добра вядома. Я і не звязваўся.

Ажно пакуль гэтае г... не пачало пэцкаць усіх нас. З выключным цынізмам. Я маю на ўвазе рэкламу «Чарка і шкварка». Тую, дзе сінюжнага выгляду калгаснікі ў куфайках колюць паршука ў антысанітарных умовах, а потым п'юць гарэлку ў вясковай хаце з абстаноўкай XIX стагоддзя. Лічу яе абразай беларускага народа.

Не ведаю, чаго дамагаўся аўтар гэтага кліпа. Думаю, хацеў паказаць народ. І паказаў, дурань. Ніякай ідэалагічнай дыверсіі не трэба - на гэтым кліпе мой народ выглядае старым, зморшчаным, неахайна апранутым, прымітыўным розумам, які знаходзіць радасць у сваім убостве. Гэты кліп можна паказваць па ўсім свеце: пабачце, якія беларусы, калі хто такога сустрэне - дайце яму выспятка.

Расейская Дума цэлы парламенцкі дзень абуралася вобразам рускага касманаўта, створанага «амерыканскімі кінематаграфістамі» (яшчэ адзін перл з БТ) у фільме «Армагедон». Хаця касманаўт чарку не піў, сала не жэр, а выратаваў амерыканскага героя. Ды і арбітальная станцыя - не вясковая хата. Рускіх закранула. А нашы самі сябе паскудзяць і радуюцца.

**Сяргей Самасей**

# Зварот да беларускага народа

**3 снежня 1999 года адбыўся легальны канстытуцыйны пераварот у Расеі. Адпраўлены ў адстаўку прэзідэнт Б.Ельцын. Улада цалкам перайшла ў рукі КГБ-ФСБ пры поўнай капітуляцыі расейскіх палітычных элітаў і расейскага грамадства.**

«Кагэбізм», які крок за крокам фармаваўся і ішоў да ўлады ў Расеі на працягу апошніх сямі гадоў (пачынаючы з няўдалага путчу ў 1991-м годзе), ёсць надзвычай жорсткі тып рускага фашызму з акрэсленай вялікадзяржаўнай імперскай ідэалогіяй і крымінальнай палітыкай. Характэрнасць яго дзеянняў - поўнае ігнараванне каштоўнасці чалавечага жыцця, тэрарыстычнае (крымінальнае, пазазаконнае) вынішчэнне элітаў, палітычная і ваенная агрэсія, стаўка на сілу і вайну.

Два гады рускія спецслужбы КГБ-ФСБ рыхтавалі напад на Чэчэнію і канчатковы заход улады ў Расеі у 1999-2000 гадах. Былі арганізаваныя правакацыі і праведзеная масавая прапагандысцкая кампанія па кампраметацыі Чэчэнскай Рэспублікі Ічкерыя. У верасні 1999 года, каб аргументаваць напад на Чачэнію, КГБ-ФСБ узарваў жылыя дамы (разам з жыхарамі) у Маскве ды іншых гарадах Расеі і паспрабаваў зваліць гэта на чачэнцаў. Тут жа была ўведзена цэнзура ў сродках масавай інфармацыі, распачата агрэсія і вайна ў Чачэніі.

З увядзеннем цэнзуры і ліквідацыяй свабоды слова ў дачыненні да падзеяў расейска-чачэнскай вайны, былі спыненыя і без таго слабыя дэмакратычныя працэсы ў Расеі. «Інфармацыю» пра вайну ў Ічкерыі (дакладней - дэзінфармацыю) даюць толькі агенты спецслужбаў (пад выглядам журналістаў) ды генералы, што вынішчаюць чачэнскі народ.

Пад уплывам дэзінфармацыі і прапаганды 70 адсоткаў насельніцтва Расеі падтрымалі агрэсію, вайну і знішчэнне Чачэніі. Рускае насельніцтва стала саўдзельнікам у злачынстве і закладнікам кагэбісцкай каманды, што захапіла ўладу ў Расеі.

Тое, што расейскія спецслужбы арганізавалі ў Беларусі ў 1994-1996 гадах, тое сталася і ў Расеі. Расея атрымала свайго Лукашэнку, такога ж самага, толькі без псіхапатыі і харызмы. Усё астатняе (у тым ліку і прэзідэнцтва) - справа спецыяльнай тэхналогіі і кароткага часу.

Гісторыя таталітарызму рухаецца па сваіх законах і сведчыць, што калі з разбурэннем таталітарнай улады не ліквідаваць сістэму яе спецслужбаў, то яны ператвараюцца ў самастойную палітычную сілу, якая захоплівае ўладу, і ўсё пачынаецца спачатку, толькі ў іншым варыянце.

Пра расейскі варыянт я ўжо сказаў: імперыялізм, палітычная агрэсія і вайна. Гэтыя людзі прыйшлі да ўлады па трупах чачэнцаў і сваіх жа рускіх грамадзянаў, ішлі на ашуканстве, агрэсіі ды вайне. На гэтым яны будуць і трымацца.

Ельцына, які заграз у злачынствах, ваенных забойствах, грашовых аперацыях і віне, прымусілі сыграць ролю Гіндэнбурга ўзамен за нікчэмны ўказ аб недатыкальнасці, а Захад робіць выгляд, што задаволены, пляскае ў далоні Ельцыну і новай уладзе. Узнікае пагроза не толькі для незалежнасці Беларусі, але ў перспектыве - і для Украіны, Грузіі, Малдовы, Балтыйскіх краінаў.

Напрыканцы XX стагоддзя Захад зноў пацвярджае сваё палітычнае згодніцтва, баязлівасць і поўнае неразуменне Расеі. Ніякіх высноваў з крывавай гісторыі стагоддзя не зроблена. Быццам не было ні Мюнхену, ні Ялты, ні аншлюсу Аўстрыі, ні здачы Чэхаславаччыны, ні пакту Молатава-Рыбентропа, ні гонкі ўзбраенняў, ні халоднай вайны. Усё забыта. Пад звон пустых заяваў прададзена




**Зянон Пазьняк**

шматпакутная і гераічная Чачэнія (хоць усе бачаць, што рускія чыняць у Чачэніі тое, што сербы ў Косаве), рыхтуецца здача Беларусі.

Праз тры месяцы (пасля правядзення прэзідэнцкіх выбараў і канстытуцыйнага замацавання ўлады кагэбізму ў Расеі) акупацыя і аншлюс Беларусі можа набыць яшчэ больш грубыя і цынічныя формы пры баязлівым маўчанні заходняга свету.

Для нас, беларусаў, цяпер няма больш важнай задачы, чым неабходнасць абараніць нашу дзяржаву і незалежнасць. У гэтым - пытанне жыцця і смерці, пытанне існавання беларускай нацыі.

Каб абараніць незалежнасць, мы мусім ліквідаваць незаконны рэжым і рэальна вярнуць законнасць улады. Адзінымі законнымі органамі і прадстаўнікамі канстытуцыйнай улады ў Беларусі з'яўляюцца недзеяздольны Вярхоўны Савет 13-га склікання (каля 40 дэпутатаў) і старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які выконвае функцыі прэзідэнта Беларусі.

Каб прывесці ў рух механізм нядзейнай, але законнай улады, беларусы мусяць быць салідарнымі ў абароне незалежнасці ды ў змаганні з незаконным рэжымам. Беларускі Народны Фронт і Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ звяртаюцца да народа з заклікам падтрымаць бесперапынную акцыю «Беларуская Салідарнасць» і выступіць у абарону незалежнасці, свабоды і суверэнітэту Беларусі перад пагрозай з Расеі.

Пагроза нацыянальнаму існаванню павінна аб'яднаць усіх беларусаў. Мы, беларусы, мусім салідарызавацца на аснове нашых духоўных народных і дзяржаўных каштоўнасцяў і рыхтавацца да змагання за незалежнасць і свабоду ўсімі даступнымі сродкамі, усюды, дзе мы ёсць: у войску і ў вучэльні, у міліцыі ды на транспарце, у адміністрацыі і ля станка. Мы мусім змагацца, калі хочам быць.

Беларуская Салідарнасць дапаможа нам арганізавацца. Беларуская салідарнасць дапаможа нам стаць моцнымі і абараніць сябе. Падтрымлівайце, ствараце, мацуйце Беларускую Салідарнасць! Арганізоўвайце акцыі, мерапрыемствы, маніфестацыі і працу Беларускай Салідарнасці. Гэта будзе тое асяроддзе, з якога вырастуць структуры ўлады і структуры змагання.

Пачаўся 2000 год - апошні год крывавага XX стагоддзя. Няхай жа гэты апошні год будзе для беларусаў літасцівым і Боскім, няхай абароніць наш Род і наш Дом ды прынясе Свабоду!

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Партыі БНФ**
**1 студзеня 2000 года**

